Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года

№49(661)
6 снежня 2012 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by





Супольная малітва і радасць у чарговы раз аб'яднала моладзь з Лучая, Варапаева і Дунілавіч.
Злева – папулярны саліст, афрабеларус Андрусь Такінданг.
*Працяг тэмы на стар. 4.*



Анонс!

## Лучай. Сустрэча моладзі. Андрэйкі і запусты

**9 снежня (нядзеля) – «МІКАЛАЙКІ».**

З нагоды ўспаміну св. Мікалая ў Лучайскім касцёле адбудзецца канцэртная праграма для дзяцей і для пілігрымаў, якія сёлета былі ў Італіі ля гроба Святога Заступніка.

Запрашаем таксама ўсіх жадаючых. Пачатак а 12 гадзіне.

**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!!!**

Докшыцкі раён

# Дом сагрэтых сэрцаў

■ Станіслаў Раманчук

**Апошнім часам у Беларусі ніяк не ўдаецца пераадолець горкую тэндэнцыю змяншэння колькасці насельніцтва.**

Самым праблемным рэгіёнам краіны стала Віцебшчына, дзе найболей перавышае колькасць памерлых над колькасцю народжаных і вельмі шмат жыве састарэлых адзінокіх людзей. Каб ім дапамагчы, у Докшыцкім раёне днямі ўрачыста адкрылі ў мястэчку Круляўшчызна другое па ліку аддзяленне кругласутачнага знаходжання для пажылых. Дагэтуль першы такі пансіянат, дзе можна было дажываць свой век з адносным камфортам, працаваў у вёсцы Сітцы. Для чарговай падобнай установы вырашылі выкарыстаць другі паверх мясцовай участковай бальніцы. У ёй быў на працягу года зроблены капітальны рамонт па еўрастандартах і абсталяваны 6 жылых блокаў з усімі зручнасцямі. У гэтым новым доме, дзе даглядаюць і клапоцяцца аб нямоглых старых, у большасці з якіх няма родных на свеце, альбо яны жывуць далёка, створана 40 месц. Практычна ўсе яны, за выключэннем двух, былі занятыя бабулькамі і дзядкамі, якім стала цяжка абслугоўваць сябе. Праўда, сем пенсіянерак вырашылі тут толькі перазімаваць, а вясной зноў вярнуцца ў свае дамы. На цырымонію адкрыцця ўстановы, на якую пайшло амаль 1,6 млрд. рублёў, спецыяльна прыехаў кіраўнік ніжняй палаты парламента Уладзімір Андрэйчанка і падзякаваў за зробленае для старых. Тут можна будзе ім і памаліцца, сустрэцца са святаром, не выходзячы з дому. Адзінае, што падобных устаноў у вобласці толькі 19, а патрэба ў такіх пансіянатах значна большая.

Шаркоўшчынскі раён

# Намеры на паперы

■ Чэслаў Якубовіч

**Пасля сёлетніх парламенцкіх выбараў адразу ў некалькіх раёнах Віцебскай вобласці засталіся без сваіх кіраўнікоў, бо яны сталі дэпутатамі новага складу Палаты прадстаўнікоў.**

Да ліку такіх дабавіўся адзін з самых глыбока датацыйных і практычна цалкам сельскагаспадарчы Шаркоўшчынскі з невялікай колькасцю насельніцтва. Праўда, тут перыяд безуладдзя доўга не зацягнуўся, меней трох тыдняў прыйшлося выконваць абавязкі старшыні райвыканкама 45-гадоваму Мікалаю Баговічу. На пазачарговай сесіі райсавета мясцовыя дэпутаты, як і чакалася, адзінагалосна зацвердзілі кандыдатуру свайго земляка і, дарэчы, урадженца самога райцэнтра. А вось затым энергічны глава вобласці Аляксандр Косінец падзякаваў папярэдніка за праведзеную працу на працягу апошніх 13 гадоў і ў сваёй манеры акрэсліў проста ашаламляльныя задачы перад гэтым рэгіёнам у бліжэйшыя 2 гады. Неверагодна, але да 2015 года ў раёне патрэбна будзе стварыць мінімум яшчэ 10 прадпрыемстваў з колькасцю працуючых у кожным не меней 50 чалавек. Дагэтуль у раёне дзейнічаў па сутнасці адзін толькі прамысловы аб’ект – кансервава-агароднінасушыльны завод, якім і кіраваў 7 гадоў М. Баговіч. Ды і дзе набраць столькі людзей, адкуль браць сродкі на вытворчасць пелletaў, разліву мінеральнай вады і нават абутку. Пытанні застаюцца, за кошт чаго ўдасца павялічыць аб’ёмы выпуску малака, мяса і зерня ў 2-3 разы за такі кароткі тэрмін, бо 3 гаспадаркі сёлета не выйшлі на ўраджай мінулага года. Ніжэй паказчыкаў 2011 года па раёну і вырошчванне бульбы, гародніны, продаж мяса, а па заробках край на адным з самых апошніх у краіне. Хутчэй усяго з такіх вось манілаўскіх планаў мала што выйдзе, бо нельга вырашаць сур’ёзныя задачы любой цаной, працуючы ўвесь час на нервах, у напружаным рытме.

Глыбоцкі раён

# На галоўнай сцэне краіны

■ Кастусь Александровіч

**На айчынным тэлерынку ў апошнія гады сваю нішу пачаў адваёўваць у сферы забаўляльных праграм і чацвёрты нацыянальны канал, ЗАТ “Сталічнае тэлебачанне”.**

Менавіта ён летась арганізаваў і выбраў “Залатую калекцыю” лепшых беларускіх песень мінулага XX стагоддзя. А сёлета работнікі гэтага тэлеканала арганізавалі і правялі новы музычны праект “Спяваючыя гарады”. У ім удзельнічалі 42 буйнейшыя беларускія рэгіёны, практычна трэць буйнейшых райцэнтраў Беларусі. З некалькіх тысяч таленавітых выканаўцаў і калектываў, якія ведалі хіба што ў глыбінцы, у фінал былі адабраны толькі 20. Сярод іх аказаўся і дуэт з Глыбокага ў складзе Жаны Нарыцынай і Тацціяны Кітовай, якія выканалі цікавую музычную кампазіцыю “Банана мама”. Спачатку яны праспявалі разам у паўфінале на прэстыжнай сцэне сталічнага Палаца Рэспублікі і запомніліся журы, бо ярка прадэманстравалі нумар вобраза энергічнай нявесты са скрыпкай і яе каларытнай сведкі з баянам. Спачатку думалі, што праваліліся, але ледзь не расплакаліся, бо іх назвалі апошнімі ў спісе шчаслівчыкаў-фіналістаў. У свой галоўны канцэрт у жыцці перад гэтым трапіла яшчэ адна зорачка з нашага рэгіёна, вучаніца СШ № 3 з Пастаў Юлія Жыдкая. Сталічнае тэлебачанне ўжо запісала гала-канцэрт фіналістаў праекта, у якім глыбачанкі праспявалі першымі. Але хто стане пераможцам музычнага тэлеконкурсу “Спяваючыя гарады” стане вядома толькі ў суботу 8 снежня, калі пройдзе трансляцыя фінальнай тэлеверсіі праекта і СМС-галасаванне беларускіх тэлегледачоў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 06.12.12 | | | | Пятніца 07.12.12 | | | | Субота 08.12.12 | | | | Нядзеля 09.12.12 | | | | Пнд.10.12.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -1 | -2 | -2 | -3 | -1 | -1 | 0 | -3 | -2 | -3 | -2 | -4 | -2 | -3 | -3 | -5 | -5 | -5 |
| Ціск | 739 | 740 | 742 | 742 | 741 | 739 | 738 | 738 | 739 | 740 | 744 | 748 | 751 | 754 | 756 | 757 | 757 | 757 | 757 |
| Вільготнасць | 93 | 96 | 92 | 99 | 100 | 98 | 98 | 96 | 95 | 95 | 93 | 92 | 96 | 95 | 90 | 92 | 94 | 93 | 93 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 4 У | 5 Пн-У | 5 Пн-У | 4 У | 4 У | 4 Пд-У | 3 Пд-У | 5 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 1 З | 2 Пд-З | 1 У | 0 ШТЛ | 1 Пн | 1 З |

# Аб самым надзённым

## Беларусам могуць забараніць аплату дарагіх тавараў наяўнымі



■ nn.by

**Мэта праграмы — давядзенне да 2016 года долі безнаяўнага грашовага абароту ў рознічным тавараабароце арганізацый рознічнага гандлю і ў аб’ёме платных паслуг насельніцтву да 50%. Пры гэтым нагрузка на аплатны тэрмінал для правядзення безнаяўных разлікаў у сферы рознічнага гандлю і паслуг павінна складаць не больш за 160 картак.**

Пра гэта паведаміў сёння на IX Міжнародным форуме па банкаўскіх інфармацыйных тэхналогіях «БанкІТ’12» намеснік старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Сяргей Дубкоў.

Напрыклад, у Італіі ўведзеная забарона на аплату наяўнымі пакупак на суму, якая перавышае 1000 еўра, у Грэцыі — на суму звыш 1500 еўра, у Францыі — на суму звыш 3000 еўра, адзначыў Дубкоў.

Таксама плануецца выключыць магчымасць выплаты спажыўцу наяўных грашовых сродкаў у выпадку вяртання тавару (работы, паслугі), аплачанага безнаяўнымі грашовымі сродкамі ў суме, якая ў 100 і больш разоў перавышае памер базавай велічыні, усталяваны на дзень рэалізацыі спажыўцу.

Пры гэтым у Беларусі плануецца пашырыць прадугледжаны заканадаўствам пералік аб’ектаў, у якіх павінныя ўсталёўвацца тэрміналы для безнаяўнай аплаты з выкарыстаннем банкаўскіх пластыкавых картак. Права выбару безнаяўнай формы аплаты тавару, працы ці паслугі павінна быць дадзенае спажыўцу на заканадаўчым узроўні, лічыць прадстаўнік Нацбанка.

Таксама ў Беларусі прапануецца выкарыстоўваць дыферэнцыяваны падыход пры ўсталяванні арэнднай платы для памяшканняў, у якіх ёсць альбо адсутнічае тэрмінальнае абсталяванне для прыёму плацяжоў у безнаяўнай форме.

Гэтыя і іншыя прапановы плануецца замацаваць заканадаўча, што дасць магчымасць стварыць умовы для ажыццяўлення разлікаў у сферы рознічнага гандлю і паслуг пераважна ў безнаяўнай форме, адзначыў Сяргей Дубкоў.

Таксама плануецца арганізаваць пераважна кругласутачны доступ трымальнікаў картак да абсталявання самаабслугоўвання (інфакіёскі, банкаматы). Будзе прапрацаванае пытанне ўкаранення бесконтактных тэхналогій пры правядзенні насельніцтвам разлікаў у безнаяўнай форме, уключаючы пытанне аплаты праезду ў грамадскім транспарце. Плануецца падключыць новых разліковых і аплатных агентаў, вытворцаў паслуг да АРІП, дапоўніць пералік новымі відамі паслуг, якія прадстаўляюцца да аплаты ў безнаяўнай форме.

Усё вышэйпералічанае прадугледжана мерапрыемствамі Праграмы развіцця ў Рэспубліцы Беларусь сістэмы безнаяўных разлікаў па рознічных плацяжах з выкарыстаннем сучасных электронных плацежных інструментаў і сродкаў плацяжу на 2013–2015 гады, праект якой падрыхтаваны Нацыянальным банкам. Мэта праграмы — давядзенне да 2016 года долі безнаяўнага грашовага абароту ў рознічным тавараабароце арганізацый рознічнага гандлю і ў аб’ёме платных паслуг насельніцтву да 50%. Пры гэтым нагрузка на аплатны тэрмінал для правядзення безнаяўных разлікаў у сферы рознічнага гандлю і паслуг павінна складаць не больш за 160 картак.

Праект праграмы быў размешчаны на афіцыйным сайце Нацыянальнага банка і накіраваны зацікаўленым органам дзяржаўнага кіравання, банкам.

«Прапановы і заўвагі, што паступілі ад рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, банкаў, грамадзян, разгледжаныя і ўлічаныя. Пасля падрыхтоўкі канчатковай рэдакцыі праекта праграмы ён будзе ўнесены на разгляд Савету Міністраў», — паведаміў Сяргей Дубкоў.

На 1 лістапада 2012 г. паказчык па долі безнаяўнага грашовага абароту ў рознічным тавараабароце дасягнуў 12,8%. Паказчык па долі безнаяўнага грашовага абароту ў аб’ёме платных паслуг насельніцтву разлічваецца раз на год і за 2011 год склаў 10,8%.

Банкамі Беларусі выпускаюцца ў абарачэнне карткі ўнутранай плацежнай сістэмы «БелКарт» і міжнародных плацежных сістэм VISA і MasterCard. На 1 кастрычніка 2012 года на долю эмісіі картак унутранай плацежнай сістэмы «БелКарт» прыпадала 47,5% ад агульнай колькасці картак у звароце, міжнароднай аплатнай сістэмы VISA — 36,7%, MasterCard — 15,8%. У цэлым эмісія картак перавысіла 10 млн адзінак, колькасць дзейных рахункаў, да якіх выдадзеныя карткі, — 9,8 млн. У больш чым 34 тыс. арганізацый гандлю (сэрвісу) усталявана звыш 52 тыс. плацежных тэрміналаў для безнаяўных разлікаў з выкарыстаннем картак, функцыянуе 4143 інфакіёскі для безнаяўнай аплаты паслуг, 3528 банкаматаў, у 97% якіх трымальнікі картак могуць не толькі атрымліваць наяўныя грошы, але і ажыццяўляць безнаяўныя плацяжы.

На 1 кастрычніка 2012 доля безнаяўных аперацый у аперацыях з карткамі ў сярэднім па рэспубліцы дасягнула 61,9% па колькасці аперацый і 18,7% па суме аперацый, павялічыўшыся за апошнія чатыры з палавай гады на 25 і 12 працэнтных пунктаў адпаведна па колькасці і па суме аперацый.

## Дзень за днём

**І ў канцы года прыток замежных інвестыцый і капіталу ў эканоміку Беларусі застаецца невысокім. Вядучы айчынны банк "Беларусбанк" прыпыніў выдачу крэдытаў на пакупку жылля. Ва Узброеных сілах, КДБ і Следчым камітэце РБ адбыліся істотныя кадравыя перастаноўкі, бо ў падраздзяленнях КДБ была "нездаровая маральна-псіхалагічная абстаноўка". Напрыканцы восені было ўжо амаль 14 тысяч беларусаў, інфіцыраваных на СНІД. У пачатку снежня тарыфы на паслугі самай папулярнай сеткі мабільнай сувязі МТС павысіліся для беларусаў на 10 %. У краіне вырашылі стварыць адзіную службу судовых экспертаў і скараціць колькасць асабовага складу міліцыі.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Кіраваць краінай стаў 59-гадовы генсек КПК Сі Цзіньпін, сын былога палітвязня віцэ-прэм'ера, яго самога ў культурную рэвалюцыю ў маладосці саслалі ў папраўчы лагер.

**Ізраіль.** Пасля серыі моцных удараў ізраільскай авіяцыі па сектару Газа Захад усклад адказнасць за абвастрэнне сітуацыі з палесцінцамі на мусульманскі агрэсіўны рух Хамас.

**Данія.** Краіна адмяніла ўведзены 3 гады назад падатак на тлустае харчаванне, аднак датчан з празмернай вагой (палова насельніцтва) меней не стала, а цэны толькі выраслі.

**Францыя.** Прэзідэнт Франсуа Алянд заявіў, што яго краіна першай у Еўропе прызнала апазіцыю ў Сірыі адзіным легітымным прадстаўніком сірыйскага народа, дапаможа яму.

**Турцыя.** Кампанія Turbell вырашыла пабудаваць у Стамбуле беларускі гарэлачны завод, а ўзамен у Мінску свой завод па вытворчасці алею на пляцоўцы сталічнага "Крышталя".

**Украіна.** Кампанія "Нафтагаз Украіны" паведаміла аб зніжэнні ў 2013 годзе на чвэрць, на 7,5 млрд. кубаметраў закупак газу з Расіі, бо купляць газ з Германіі на 100 долараў танней.

**Грузія.** Глава МЗС Майя Панджыкідзе заявіла, што грузіны ніколі не вернуцца ў СНД, а жадаюць уступіць у цягам часу толькі ў ЕС і НАТО, не будуць аднаўляць адносіны з РФ.

**Польшча.** У службе аховы мяжы РП пацвердзілі, што сёлета на граніцы з Беларуссю за 8 месяцаў затрымалі ўжо 159 нелегалаў і 17 такіх арганізаваных груп, такога раней не было.

**Харватыя.** З радасцю ўспрынялі жыхары краіны апраўданне Гаагскім трыбуналам двух харвацкіх генералаў, асуджаных летась за быццам злачынствы супраць мірных сербаў.

**Егіпет.** Жудаснае ДТЗ узрушыла краіну: пры сутыкненні днём цягніка са школьным аўтобусам загінула больш 50 чалавек, пераважна дзяцей, якіх везлі дамоў з дзетсада.

**Канада.** Вучоныя краіны выявілі, што адзін з самых смяротэльна небяспечных вірусаў Эбала можа перадавацца і па паветры, але не так, як узбуджальнікі грыпу і недалёка.

**Германія.** Сусветна вядомая фірма спартыўнага адзення і абутку Adidas пачала выпускаць сапраўдныя валёнкі з сучасных матэрыялаў і экалагічна чыстай вайны для лютых халадоў.

**Балгарыя.** Пасля сваёй смерці ў 99 гадоў патрыярх Максім пакінуў царкве ўсю маёмасць: кнігі, гадзіннік, друкарскую машынку, жыў вельмі сціпла, грошы аддаваў дзецям-сіротам.

**Аўстралія.** На ўзбярэжжы мора Каралавае сярод шматлікіх каралавых рыфаў і астравоў улады адкрылі буйнейшы ў свеце марскі запаведнік плошчай болей 2 млн. квадратных км.

**Швейцарыя.** Прэзідэнт УЕФА Мішэль Плаціні прапанаваў правесці чэмпіянат Еўропы па футболе 2020 года ў 13 гарадах ад Лондана да Масквы, бо там гатова ўся інфаструктура.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Кіраўнік урада РБ М. Мясніковіч прызнаў, што летась Беларусь была на мяжы дэфолта і адверг прэтэнзіі Расіі наконт вяртання пошлін за экспарт растваральнікаў.

**Мазыр.** Пасля спынення мясцовага нафтаперапрацоўчага завода на планавы рамонт на 19 дзён у Беларусі ў рэальным сектары эканомікі істотна знізіліся тэмпы росту аб'ёмаў ВУП і будаўніцтва.

**Мінск.** Польскі пасол Лешак Шарэпка заявіў, што Беларусь не жадае лібералізацыі візавага рэжыму і аблягчэння ўмоў узаемных паездак для людзей, не рэагуе на крокі ЕС.

**Бабруйск.** Адзін з самых уплывовых айчынных бізнесменаў Сяргей Левін пацвердзіў, што ў Беларусі няма ўмоў для дзелавых людзей, каб пачынаць сваю справу, страчана вера і ва ўрад.

**Мінск**. Сталічныя ўлады адумаліся і адмянілі сваё рашэнне аб увядзенні са снежня на 2 месяцы забароны на продаж танных пладова-ягадных він (чарніла, як завуць у народзе).

**Гродна.** Акцыі буйнога прадпрыемства азотных угнаенняў "Азот" пасля адмовы купіць расійскага "Газпрама" ўрад Беларусі прапанаваў набыць фірмам-інвестарам з Індыі.

**Жданоvічы.** Буйнейшы ў РБ мясцовы агракамбінат у вёсцы Багатырова ўзвёў на плошчы 5 гектараў сучасную цяпліцу, дзе будуць вырошчваць кветкі і таматы круглы год.

**Брэст.** Суд пакараў злачынную групу з чатырох чалавек, якія па начах нападалі ў чорных масках і рабавалі дамы багатых гараджан, пазбаўленнем волі на тэрмін ад 9 да 11,5 гадоў.

**Магілёў.** На вуліцах горада з'явіліся першыя 10 айчынных пасажырскіх мікрааўтобусаў МАЗ-182, канкурэнтаў "Газелі", іх выпуск пачаў мясцовы завод "Трансмаш".

**Камянец.** У вёсцы Воўчын раней судзімы жыхар Брэста абрабаваў царкву, забраў з храма некалькі крыжоў і крыжыкаў, 3 абразы, 70 тысяч рублёў, мярзотніка затрымала міліцыя.

**Дзяржынск.** Мясцовая швейная фабрыка "Эліз" пачала выпуск ідэалагічна правільнага адзення - чырвона-зялёных кашуль, гальштукаў і нават насавых хустачак за 92 тысячы.

**Навагрудак.** Перанесены з лета рыцарскі турнір прайшоў падчас абласных "Дажынак" аграрыяў Гродзеншчыны разам з канцэртам сярэднявечнай музыкі, танцаў і фаер-шоу.

**Мазыр.** На тэрыторыі суседняга Петрыкаўскага раёна займаўся браканьерствам адзін з леснікоў, у яго знайшлі 2 незарэгістраваныя стрэльбы, двор быў упрыгожаны чэрапамі.

**Бараўляны.** Падчас рамонту свайго дома ў гарпасёлку ўпаў днём з лесвіцы-драбінкі і памёр ад удару да прыезду брыгады дакатароў хуткай дапамогі 55-гадовы мужчына.

**Гродна.** Буйнейшы ў Беларусі заапарк напярэдадні зімы набыў навасёла – амурскага тыгра Шэрхана для самкі Тайгі, таксама абзавяліся тут і трохмесячным ільвёнкам Джоні.

# У Беларусі спыняецца вытворчасць пладовых мацаваных ардынарных він




■ Марына Носава, БелаПАН.

**Нулявая квота на вытворчасць пладовых мацаваных ардынарных він у 2013 годзе ўстаноўлена ў Беларусі. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 1081 ад 27 лістапада 2012 года, паведаміла прэс-служба ўрада.**

Пра тое, што вытворчасць і рэалізацыя пладова-ягадных ардынарных він у Беларусі будзе спынена 1 студзеня 2013 года, заявіў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, адкрываючы 21 лістапада ў Калядзічах гандлёва-лагістычны цэнтр РУП «Мінск Крышталь».

У той жа час, паводле яго слоў, застанецца пладова-ягадныя віны палепшанай якасці, а таксама віны марачнага класа. Беларускім прадпрыемствам, адзначыў прэм'ер, варта перапрафіляваццa на вытворчасць такой прадукцыі. «Халтуры не будзе. Разлічваць на атрыманне хуткіх грошай таксама не трэба — працаваць неабходна, выпрабоўчы якасную прадукцыю», — падкрэсліў кіраўнік урада.

Як паведаміла 22 лістапада БелаПАН прэс-сакратар канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Алена Кравец, пладовыя віны ў Беларусі выпускаюць 48 прадпрыемстваў. Пазіцыя «Белдзяржхарчпрама» па гэтым пытанні была апублікавана яшчэ летам і засталася нязменнай, адзначыла Кравец. «Наш канцэрн лічыць, што гэтых прадпрыемстваў павінна быць менш, а вытворчасць пладовых він павінна быць засяроджана на спецыялізаваных прадпрыемствах. Былі названы Пінскі, Гомельскі, Слонімскі вінаробныя заводы, Талачынскі кансервавы завод, Бабруйскі завод напояў. У іх моцная матэрыяльная база, добрае абсталяванне і спецыялісты», — сказала прэс-сакратар «Белдзяржхарчпрама».

Яна таксама паведаміла, што штогод вытворчасць пладова-ягадных він зніжаецца. «Пры гэтым выпуск нізкагатунковых, гэта значыць ардынарных, він, за якія нас усе і лаюць, скарочаны амаль у чатыры разы», — падкрэсліла Кравец.

Пытанне аб поўным спыненні вытворчасці пладова-ягадных він не разглядаецца, заявіла яна. «У нас ужо даўно распрацаваны тэхналогіі і арганізавана вытворчасць больш якасных він. Гэта віны спецыяльнай тэхналогіі, марачныя віны, а таксама віны фруктова-ягадныя натуральныя, у якія наогул не дадаецца этылавы спірт», — сказала прэс-сакратар.

Дакументам урада таксама зацверджана, што Міністэрства аховы здароўя пры ўзгадненні квот на вытворчасць алкагольнай прадукцыі, згодна з пастановай, павінна будзе ўлічваць мерапрыемствы дзяржпраграмы нацыянальных дзеянняў па прадухіленні і пераадоленні п'янства і алкагалізму на 2011—2015 гады.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На працягу двух дзён кіраўнік вобласці А. Косінец у новенькай форме генерал-маёра правёў вайенныя зборы з кіраўнікамі раёнаў, сілавых структур, а ў арміі не служыў.

**Наваполацк**. КДБ затрымала і абвінаваціла слесара ААТ "Нафтан" Андрэя Гайдукова ў намеры "здрады Радзіме" і супрацоўніцтва з ЦРУ, хоць ён не ведае ніякіх дзяржтайн.

**Полацк.** У старажытным горадзе на працягу тыдня праходзілі юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 1020-годдзя старэйшай у краіне Полацкай праваслаўнай епархіі.

**Докшыцы.** Біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін ля вёскі Круляўшчызна асвяціў адноўленыя мясцовымі вернікамі польскія вайсковыя могілкі вайны з Расіяй 1920 года.

**Браслаў.** На рэканструкцыю мясцовага торфабрыкетнага завода на 2013 год выдзелілі 50 мільярдаў рублёў, яго абсталяванне зношана на 100 %, сёлета не было сродкаў на рамонт.

**Лепель.** Дасягнуць да канца года сярэдняй зарплаты 500 $ у месяц – такую задачу атрымаў новы кіраўнік раёна Барыс Яфрэмаў, аднак шмат праблем тут у АПК і на двух заводах.

**Паставы.** Мясцовы малочны завод адчуў недахоп сыравіны, яе зімой паступае да 120 тон у дзень, а новы сучасны міні-сырзавод патрабуе да 200 тон малака кожныя суткі працы.

**Глыбокае.** Дуэт спявачак з райцэнтра Жаны Нарыцынай і Тацціны Кітовай выступілі ў фінале тэлепраекта СТБ "Спяваючыя гарады", туды ж прабілася і Ю. Жыдкая з Пастаў.

**Шаркаўшчына.** Пасля цяжкай невылечнай хваробы пайшоў з жыцця Эдуард Корсак, які рэдагаваў доўга райгазету; раённам стаў кіраваць новы старшыня РВК Мікалай Баговіч.

**Віцебск.** Міліцыя адшукала і арыштавала 36-гадовага гараджаніна, які паведаміў аб быццам магчымым выбуху на мясцовым халадакамбінаце, адкуль эвакуіравалі людзей.

**Чашнікі.** Побач з брацкай магілай у вёсцы Капцэвічы перазахавалі астанкі 35 мірных жыхароў і ваеннапалонных, якіх у гады вайны расстралялі нацысты ў турме райцэнтра.

**Орша.** У бальніцу змясцілі 33-гадовага жыхара Магілёва, які, кіруючы вечарам грузавіком "Мерседэс", ля вёскі Хлусава сутыкнуўся з трактарам МТЗ-52 і быў заціснуты ў кабіне.

**Докшыцы.** Спікер парламента У. Андрэйчанка паабяцаў калектыву мясцовай СШ № 1 знайсці 4-5 мільярды рублёў на замену вельмі старых вокнаў, сантэхнікі і падлогі.

**Полацк.** Суд пакараў 23-гадовую навапалачанку, бухгалтара школы-інтэрната, якая прысвоіла і потым вярнула 55 мільёнаў рублёў, 5 гадамі турмы з адтэрміноўкай прыгавора.

**Віцебск.** Яшчэ мінімум на год ФК "Віцебск" застаўся гуляць у 1-й лізе і не змог вярнуцца ў мацнейшы дывізіён беларускага футбола, адкуль пазбег вылету наваполацкі "Нафтан".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ
Віцебскага аблвыканкама

**Установа адукацыі**
**“Глыбоцкі дзяржаўны**
**прафесіянальны ліцэй”**

211793 г.Глыбокае,
вул.Камсамольская,33
Тэлефон /факс 5 01 80



УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
Витебского облисполкома

**Учреждение образования**
**«Глубокский государственный**
**профессиональный лицей»**

211793 г.Глубокое,
ул.Комсомольская, 33
Телефон /факс 5 01 80

29.11.2012 № 1699

**glicey@vitebsk.by**

Главному редактору
газеты «Вольнае Глыбокае»

Руководство и педагогический коллектив УО «Глубокский госпрофлицей» выражает свой протест на материал «Панарама ўнутрыабласных падзей» опубликованный в газете «Вольнае Глыбокае» №47 от 22.11.2012 года в рубрике «Рэха падзей». Эта заметка написана без оснований и подрывает авторитет учебного заведения. Работники и учащиеся всегда оказывали и будут оказывать посильную помощь хозяйствам района в проведении сельскохозяйственных работ. В 2011 году студенческие отряды нашего лицея на уборке урожая сельскохозяйственной проукции заняли в области первое место и получили премию в размере 5 миллионов рублей, которая была направлена на укрепление материально-технической базы лицея.

Ваша заметка совершенно не имеет под собой фактического обоснования: с 27.10 - 28.10.2012 года – это выходные дни, 29.10.2012 года ( а именно в эти дни выпал снег) в понедельник все группы находились на занятиях. Подтверждение тому записи в учебных журналах.

Требуем пояснить, на каком основании сделан вывод, что учащихся лицея “ прымушалі ратаваць лён з - пад снегу”. В газете указано, что “аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў”. Требуем публичного опровержения.

По поручению коллектива
Директор: Шинкевич В.А.

# «Патрабуем публічнага абвяржэння»

Рэдакцыя газеты “Вольнае Глыбокае” на імя яе рэдактара Уладзіміра Скрабатуна атрымала заказны з апавяшчэннем ліст, які падпісаны па даручэнні калектыва дырэктарам Установы адукацыі “Глыбоцкі дзяржаўны прафесійны ліцэй” В.А. Шынкевіч. Калектыў Установы адукацыі і сама дырэктар піша: *“патрабуем патлумачыць, на якой падставе зробленая выснова, што навучэнцаў ліцэя прымушалі ратаваць лён з-пад снегу? … Патрабуем публічнага абвяржэння”.*

Напісанты ліста спасылаюцца на матэрыял, які, нібыта, быў апублікаваны ў газеце “Вольнае Глыбокае”, № 47 ад 22.11.2012 г у рубрыцы “Рэха падзей”.

**Глыбокае.** Расійскі тэлеканал “НТБ” у выпуску навін паказаў, як навучэнцаў прафліцэя прымушалі ратаваць лён з-пад снегу, але з-за цэнзуры ў Беларусі гэты сюжэт не паказалі.

**Гарадок.** Ураёне найболь-

Сітуацыя вымагае ізноў вярнуцца да публікацыі нататкі ў газеце “Вольнае Глыбокае”, № 47 ад 22.11.2012 г пад рубрыкай “Рэха падзей” , у матэрыяле “Панарама ўнутрыабласных падзей”, стар. 3. Цытуем: *“Глыбокае. Расійскі тэлеканал “НТБ” у выпуску навін паказаў, як навучэнцаў прафліцэя прымушалі ратаваць лён з-пад снегу, але з-за цэнзуры ў Беларусі гэты сюжэт не паказалі.”* У заказным лісце сказана – “просім патлумачыць”. Тлумачым пазіцыю газеты і яе рэдактара: у згаданай вышэй і цытаванай нататцы ўтрымліваецца паведамленне, што: “Расійскі тэлеканал “НТБ” (альбо па-руску – “НТВ”) у выпуску навін паказаў, як навучэнцаў прафліцэя прымушалі ратаваць лён з-пад снегу, але на Беларусі гэты сюжэт не паказалі”. Гэта азначае, што газета “Вольнае Глыбокае”, № 47 ад 22.11.2012 г, пад рубрыкай “Рэха падзей”, у матэрыяле “Панарама ўнутрыабласных падзей”, стар. 3, ніякага матэрыялу на тэму ўборкі льну навучэнцамі Установы адукацыі “Глыбоцкі дзяржаўны прафесійны ліцэй” – НЕ ПУБЛІКАВАЛА. Зыходзячы з гэтага, мы не бачым ніякіх падставаў для публічнага абвяржэння матэрыялу, які нашая газета не змяшчала.

Абы не ўзнікла праблема рознaчытання і рознага тлумачэння, мы змяшчаем два сканы на мове арыгіналаў: злева – тэкст заказнога ліста, які газета атрымала з Установы адукацыі “Глыбоцкі дзяржаўны прафесійны ліцэй”, справа – скан нататкі, якая была размешчаная ў газеце “Вольнае Глыбокае”, № 47 ад 22.11.2012 г пад рубрыкай “Рэха падзей”, у матэрыяле “Панарама ўнутрыабласных падзей”, стар. 3.

Адзінае, што можна дадаць да вышэйнапісанага – такі сюжэт, які згадваецца ў газетнай публікацыі («ВГ», №47), сапраўды быў падрыхтаваны журналістам «НТВ» Аляксеем Прокіным і 30 кастрычніка выйшаў у расійскі эфір.

*З пашанай, Уладзімір Скрабатун.*

# Вельмі важна адчуваць сябе адзінай супольнасцю

■ **с. Марына Брылёнак**

**Супольная малітва і радасць у чарговы раз аб’яднала моладзь з Лучая, Варапаева і Дунілавіч. Сустрэча, якая адбылася на гэты раз 1 снежня ў Навасёлках (Лучайская парафія Пастаўскі дэканат Віцебская дыяцэзія) была нагодай да задумы над мэтай Адвэнту, які распачынаем. Гэта таксама падкрэслівала тэма спаткання “Маё чаканне”.**

На самым пачатку кс. Павел Самсонаў з вялікай радасцю прывітаў усіх удзельнікаў і зазначыў, што хлопцы і дзяўчаты павінны быць сведкамі сваёй веры. А гэта значыць несці іншым радасць, дабрыню і любоў. Таксама не менш значнай была канферэнцыя, якую прамовіў кс. Чэслаў Куцмеж. Падчас, якой святар заклікаў моладзь задумацца над асабістай верай. Ці часам у нашым жыцці не ёсць так, што мы называем сябе веруючымі, але, калі надыходзіць нядзеля, то раптам у нас тысяча іншых спраў з’яўляецца? Ці мы так сапраўды прагнем ад шчырага сэрца памаліцца, паразмаўляць з Езусам аб сваіх клопатах? Святар паставіў пытанне кожнаму: *Якое мейсца я прызначаю Богу? І ці ўвогуле Ён мае мейсца ў маім сэрцы?* Таксама кс. Чэслаў заахвоціў хлопцаў і дзяўчат чуваць над словамі, якія вымаўляюць. Бо хрысціянін не можа дазволіць сабе ўжывання дрэнных слоў. Кожны павінен быць свядомы, што праз хрост мы сталіся Божымі дзецьмі і ад таго моманту сваімі дрэннымі словамі ці ўчынкамі крыўдзім нашага Нябеснага Айца.

Пасля канферэнцыі моладзь з Дунілавіч паказала сцэнку “Нямая малітва”, сэнс якой заключаўся ў тым, што толькі шчырая малітва з сэрца даходзіць да Бога. Важным пунктам сустрэчы была супольная Эўхарыстыя і адарацыя Найсвяцейшага Сакараманту. Падчас якой моладзь разважала над таямніцай Уцелаўлення Бога і мэтай Адвэнту.




Пасля вельмі насычанай духоўнай часткі спаткання моладзь чакала вялікая радасць. Кс. Мікалай Ліпскі запрасіў усіх прысутных на канцэрт гурта ”Рэха”. Якая радасць панавала ў танцзале!



Спевы, танцы і смех – усё гэта было сярод моладзі.

Вельмі важным з’яўляецца адчуваць сябе адзінай супольнасцю. Менавіта гэтаму і служаць такія сустрэчы. Падчас якіх моладзь умацоўваецца ў сваёй веры, каб потым дзяліцца дабром і радасцю з іншымі.










Марыя Баравік,
*г.п. Падсвілле.*

# Не ляніцца б людзьмі звацца

### Чытаючы адказ Беларускай чыгункі

Здавалася б, кіраўнікам дадзена такая натуральная магчымасць – зрабіць Беларусь годнай, культурнай да захаплення, краінай. Бо такое кранальнае шчасце (умовы) у яе ёсць – незалежнасць.

І, раптам, думка, нейкая трывога і балючасць: а ці незалежная?.. Пры нашай унутранай грамадзянскай абыякавасці, цемнаце? Ці не залежная ад інертнасці, ляноты і страху? Дакуль будзе панаваць такі стан? І на гэтай аснове ці будзе доўга незалежнай?

Так я ўстрывожылася, чытаючы адказ на калектыўны зварот нашых жыхароў ва Управу Беларускай чыгункі. Спадар П.В. Стоцкі (намеснік Начальніка Б.Ч.) пракаментаваў свой погляд і жаданні артыкуламі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (17, 13, 4), Законам РБ "О железнодорожном транспорте", "О наименовании географических объектов". Ён патлумачыў і сваё права, і права чыгуначнага кіраўніцтва на адвольнае ўжыванне моў, мусіць, абапіраючыся на размеркавальны злучнік "або", (у сэнсе: ці тую, ці іншую), які стаіць у тэксце Закона. Начальніку працэй (згодна жадання) апраўдацца размеркавальнай функцыяй злучніка "або". І ён адказвае: "Кожны жадаючы можа карыстацца як беларускай, так і рускай мовамі, але прымушаць да карыстання адной з дзяржаўных моў недапушчальна". Выходзіць, усе на Беларускай чыгунцы – супраць мовы. І ён не можа змусіць – прыняць яе. Дык вось жа і нашы падпісанты не маюць на ўвазе змушэнне. Але хочуць нагадаць з вялікай трывогай, што адвольнасць афармлення не выяўляе твару Беларусі. А мы жывём, менавіта, у Беларусі. Чаму не клапоцімся пра загаловак духоўнага зместу краіны? Яна ж павінна выдзяляцца культурай на сваёй, асабістай, роднай, карэннай аснове. Найперш – мове. Бо мова – пачатак культуры. І разуменне гэтага кіраўнікамі – гарант незалежнасці. Бо ўжо тады кіраўнікі – гонар і сіла.

Прышлая мова пры наяўнасці роднай мае другаснае месца (калі, нават, яна і дзяржаўная ў супольнасці з карэннай). І на шыльдах дзяржаўнага значэння трэба пісаць на дзвюх мовах: беларускай і рускай. Калі шыльда аднамоўная, то абавязкова беларуская. З гэтым згадзіцца кіраўнічая асоба любой нацыі. Дзіўна, што толькі ад нашай, у большасці, не чуем згоды.

Ніжэй спадар кіраўнік БЧ піша, што Закон патрабуе ведання аб'ёму мовы, неабходнага для выканання службовых абавязкаў, але неабавязкова адказваць кліентам на іх мове. Аднак жа на беларускай - трэба. Ды і каб чалавеку было прыемна. Бо службовыя абавязкі, на мой погляд, – гэта культура, якая зыходзіць з БЧ праз мову. Без добразычлівасці нідзе не абыдзешся ў чалавечым грамадстве.

І што датычыцца дакументацыі: калі на дзяржаўным узроўні, на ўзроўні шырокамаштабнасці, культурнага іміджу краіны, годнасці, адметнасці і гонару на гэтай аснове, то вядзенне – на мове роду яе. Бо Беларусь яшчэ не калонія, не палонная, не забітая.

І праўда такая ў нас сёння: выкарыстанне толькі адной з дзяржаўных моў ушчымляе і правa другой, і душыць жыццё яе. Злачынства.

Дакументацыя, тэксты Законаў на рускай мове, нясуць знішчэнне мовы беларускай. І для чаго гэтая транслітарацыя згодна Закона РБ "О наименованиях географических объектов", якая будзе паказваць, напрыклад, і без таго скалечаную назву прыпынку паміж Зябкамі і Кульгаямі Глыбоцкага раёну – "Палевачэ", пераводзіць яе на "Палеваче", калі гэты прыпынак ад прыроды – беларускае Палівачча.

І ці трэба нам размеркавальны злучнік "або", "альбо", калі дзве дзяржаўных мовы? На дзвюх і ўсё пісьменства Беларусі! Гэта і будзе выкананне Закону аб мовах.

### Выкінулі мову

Ішла на станцыю, думкі роднамоўна вірыліся – шукала фабулу новай казкі ад натхнення пераможцы ў конкурсе Беларускага тэатра "Лялька".

Прыйшла. Купіла білет у дзяжурнага па станцыі спадара Маняка, які – беларус. Ды і ўсе мы тут. Выйшла з вакзала.. Захінулася ад ветру. Бачу пад сцяной службовага ўваходу родную шыльду "Падсвілле". Няўжо? – думаю… Мы ж толькі-што звярталіся калектыўным пісьмом да аб'яднання Беларускай чыгункі, каб яна апраўдала назву "Беларуская".

Адказ мы атрымалі адмоўны ад намесніка Начальніка БЧ – спадара В.П. Стоцкага. Ды надзея не адступала – мабыць, начальства задумаецца.

А тут – на табе! Прама на фасадзе… Колькі жыву ў Падсвіллі, колькі выязджала і прыязджала – сустракала роднасць. Ды, раптам, з'явілася "Станция Подсвилье". Расія? Набліжаемся да каланіяльнай залежнасці? Ці як?.. Яшчэ ж незалежныя!

Праўда, адказ з кіраўнічай інстанцыі – на беларускай мове. Хоць і кінута рэпліка, што Закон не вымагае беларускамоўных адказаў. Мо гэта – вымова за любоў да Радзімы? Дык якраз жа кіраўнікі і павінны падаваць патрыятычны прыклад. А наш ліст – нармальны і выразны парыў запытальніка, ключ да паразумення як першаснае дзеянне суразмоўцы. Адказ жа – культура, другога суразмоўцы. Тым больш з кіраўнічай інстанцыі шырокамаштабнага дзеяння. Чыгунка ж – не кірмаш, дзе руск-груз-цыган таргуецца на расейскай ломанай паўмове. Тут – Радзіма.

### Ад Глыбокага чыгункай або Дзе транслітарацыя?

23-га лістапада праехала чыгункай да Глыбокага ад "расейскага" Падсвілля.. І пабачыла: "Замошье", "Шипы", "Журки", "Глубокое". Зірнула на "лоб" цягніка – "Поставы". Нават транслітарацыі не назіраецца. Урачыста жывы пераклад на рускую. І абрусенне, такога характарыстычна-ёмістага беларускага слова, як "пастава" (асабовая падкрэсленасць, характэрнасць асобы, у якой адчуваецца незалежнасць, самавітасць). Значэнне гэтага слова зусім не тое, пра якое, мабыць, думаюць перакладчыкі ("паставіць" шыльду) і пішуць: "Поставы".

Яшчэ не ехала ў бок Полацка. Як жа цяпер называецца прыпынак "Палевачэ"? Можа "Полеваче"? З гэткага выкрунтаса вынікае страшэннае няведанне сваіх моўных каранёў, духу, аблічча слова. Гэта ж – Палівачча (ад – "палівацць"). Таксама, зборнага значэння, словы "Замошша" (месца, якое знаходзіцца за шматлікасцю мхоў). "Кульгаі" – ад слова "кульгаць". Калі нага баліць. Беларускія назовы да такой ступені гаваркія, што выклікаюць усмешку і выяўляюць адкрыццё. Бо зразумела, адкуль іх корань, на што намякаюць, падказваюць. Абы мы толькі хацелі ведаць. Транслітарацыя стварае ненатуральнасць. Напрыклад, пераклад "Заборье" нармальна гучыць, бо яно рускамоўнае слова. "Заплотье" ўсмешвае. Глыбоччына неяк не гучыць "Глуботчиной".

### За дасканаласць Закона аб мовах

Перапіска з дзяржаўнымі інстанцыямі за мову на практыцы пацвердзіла недасканаласць Закона аб мовах, і апраўдвае сённяшнюю трывогу за незалежнасць Беларусі.

З гэтай прычыны ГА ТБМ імя Ф, Скарыны, як кажуць, "усім патрыятычным мірам" звярнулася да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу РБ (тады яшчэ кандыдатаў), каб яны ў сваёй дзяржаўнай працы, праграме мелі пункт аб прыняцці ўдасканаленага Закона аб мовах. Каб вынеслі на абмеркаванне прапанаваную ГА ТБМ канцэпцыі Закона РБ, "зыходзячы з таго, што беларуская дзяржава як вышэйшая форма арганізацыі беларускай нацыі нясе поўную і аднаасобную адказнасць за беларускую мову".

Праца над канцэпцыяй – трохгадовая, уважлівая, "з задачай вынясення яе на разгляд адной з сесій Палаты прадстаўнікоў НСРБ".

Я, ад нашага падсвільскага моўнага калектыву даслала канцэпцыю праекта ў Палату, на імя ранейшага і сённяшняга дэпутата, спадара Андрэйчанкі. І, яшчэ раз, для большай грунтоўнасці, перадала яму праз яго сакратара, спадара Шыпко.

Мы ахвяравальна працуем для духоўнай культуры Радзімы. Таму так трывожна-кранальна ўздзейнічае на нас супярэчлівая адмоўная з'ява аднамоўна-рускіх шыльдаў у незалежнай Беларусі.




# Слёзы, пагрозы ў адрас інспектараў – усё гэта дарэмна!

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Позняя восень, ночы з кожным днём усё даўжэйшыя і цямнейшыя, увесь час ідзе дождж, жыццё замірае, усё як у запаволеным кіно. Але, так здаецца толькі на першы погляд. У супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі ў восеньскі перыяд працы не памяншаецца. Заўсёды знойдуцца ахвотнікі скарыстацца цемрай і дрэнным надвор'ем, спадзеючыся пад полагам ночы пажывіцца рыбкай ці дзікім зверам.**

Так было і ўвечары 11 лістапада 2012 года. Двое жыхароў Ушацкага раёна Зігмантовіч Н.П., работнік адной з СВК раёна і Лапёнок А.В., вадзіцель мясцовага МНС, вырашылі, што пад полагам ночы змогуць без цяжкасці налавіць андатр, бо іхнея футра добра каштуе і заўсёды знойдзе свайго пакупніка. Яны спакойна прыехалі на вадасховішча «Азерцы» Глыбоцкага раёна і, весела напяваючы ўсім знаёмую песню «и снова седая ночь, и только ей доверяю я», сталі ўсталёўваць пасткі на звяркоў. Аднак, супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету таксама не драмалі і затрымалі Зігмантовіча Н.П. і Лапёнка А.В. Суд Глыбоцкага раёна аштрафаваў кожнага з парушальнікаў на суму 1 млн. рублёў з пазбаўленнем права палявання на 3 гады. 26 лістапада супрацоўнікамі міжрайінспекцыі пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў на тэрыторыі Пастаўскага раёна, пра паляўнічыя ўгоддзі Пастаўскай РОС РГГА «БТПР» выяўлены незаконна здабытыя тушы лася і еўрапейскай казулі, на месца выяўлення выкліканыя супрацоўнікі Пастаўскага РАУС. Праводзіцца мерапрыемствы па вызначэнні браканьераў, якія варварскім спосабам здабылі жывёл, пра наступствы сваіх незаконных дзеянняў грамадзяне не думаюць зусім. Бо за дадзенае браканьерства крымінальны кодэкс прадугледжвае пазбаўленне волі да 6 гадоў, таму заўсёды ўзнікае пытанне: ці трэба ісці на парушэнне. Дзяржава вельмі гуманна ставіцца да браканьераў, суды ў выглядзе пакарання выносяць штрафы, умоўныя пакаранні, але так будзе не заўсёды і хтосьці першы адправіцца адбываць рэальныя тэрміны пакарання. Дык ці варты кавалак мяса волі?

Хацелася б адзначыць, што ў апошнія гады ўсё больш грамадзян атрымліваюць права на паляванне, асабліва моладзь, але пры гэтым яны зусім не ведаюць прыродаахоўнага заканадаўства, правілаў палявання. Шмат хто наўмысна ідзе на парушэнні да таго моманту, пакуль іх не затрымоўваюць, затым пачынаюцца ўгаворы, слёзы, пагрозы ў адрас інспектараў, але ўсё гэта дарэмна. Не парушайце – і ў інспектараў не будзе да Вас пытанняў.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 «кругласутачна», 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# На дзіцячым «Еўрабачанні» прадстаўнік Беларусі заняў дзявятае месца сярод 12 удзельнікаў

**На міжнародным дзіцячым конкурсе песні «Еўрабачанне-2012», які адбыўся 1 снежня ў Амстэрдаме, 12-гадовы прадстаўнік Беларусі Ягор Жэшка (Мінск) заняў дзявятае месца сярод 12 удзельнікаў.**

Жэшка, які выканаў кампазіцыю «А морамора…», набраў 56 балаў. Конкурс выйграла 10-гадовая ўкраінка Анастасія Петрык з песняй «Неба», якая атрымала 138 балаў. Далей ідуць прадстаўнікі Грузіі (103), Арменіі (98), Расіі (88), Бельгіі (72), Швецыі (70), Нідэрландаў (69), Ізраіля (68), Беларусі, Малдовы (52), Азербайджана (49) і Албаніі (35).

Беларускі ўдзельнік атрымаў 10 балаў ад Украіны (другое месца), па 7 — ад Азербайджана, Арменіі і Грузіі (чацвёртае), 4 — ад Расіі (сёмае), па 2 — ад Албаніі, Бельгіі і Малдовы (дзявятае), па 1 — ад Ізраіля, Швецыі і дзіцячага журы (дзясятае), 12 — у якасці бонуса (разам з астатнімі).

Гледачы Беларусі аддалі першае месца Украіне (12 балаў). 10 балаў атрымала Расія, 8 — Арменія, 7 — Швецыя, 6 — Грузія, 5 — Ізраіль, 4 — Малдова, 3 — Бельгія, 2 — Азербайджан, 1 — Нідэрланды.

Беларусь выйгравала дзіцячае "Еўрабачанне" ў 2005 (Ксенія Сітнік) і 2007 (Аляксей Жыгалковіч) гадах. У 2006 годзе было другое месца (Андрэй Кунец), у 2011-м — трэцяе (Лідзія Заблоцкая). Конкурс праводзіцца з 2003 года. Беларусь з`яўляецца яго пастаянnай удзельніцай.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

